© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 48 (784) 29 ЛІСТАПАДА 2006 г.

## Зварот Сакратарыяту ТБМ
### да кіраўніка беларускай дзяржавы А. Р. Лукашэнкі
*"Абвесцім 2007 год годам беларускай мовы і культуры!"*

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" хоча нагадаць беларускім уладам, што ў наступным, 2007 годзе споўніцца **125 гадоў** з дня народзінаў класікаў нашай літаратуры, вядомых грамадскіх дзеячаў, палітыкаў і навукоўцаў **Янкі Купалы і Якуба Коласа**.

У сувязі з гэтым мы прапануем выдаць адпаведны Указ альбо Пастанову Савета Міністраў, у якіх варта адлюстраваць наступнае:

1. Абвесціць наступны, 2007 год годам беларускай мовы і літаратуры.
2. Вярнуць у адукацыйныя стандарты для ВНУ абавязковае выкладанне беларускай мовы і курса "Беларусазнаўства".
3. Аднавіць выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі ў школах з рускай мовай навучання на дзяржаўнай беларускай мове.
4. Адкрыць у Мінску Нацыянальны універсітэт з выкладаннем усіх прадметаў пабеларуску і надаць яму імя Якуба Коласа.

***Прынята на Сакратарыяце ТБМ 22 лістапада 2006 г.***

*Сакратарыят ТБМ прапануе грамадзянам Беларусі падтрымаць наш зварот да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сваімі подпісамі.*

**Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку**
**220050, г. Мінск, вул. К. Маркса, 38.**

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, хочам нагадаць Вам, што ў наступным , 2007 годзе споўніцца 125 гадоў з дня народзінаў класікаў нашай літаратуры, вядомых грамадскіх дзеячаў, палітыкаў і навукоўцаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У сувязі з гэтым мы прапануем выдаць адпаведны Указ, у якім варта адлюстраваць наступнае:

· Абвесціць наступны, 2007 год годам беларускай мовы і літаратуры.
· Вярнуць у сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны курс "Беларусазнаўства".
· Аднавіць выкладанне гісторыі і геаграфіі Беларусі ў школах з рускай мовай навучання на дзяржаўнай беларускай мове.
· Адкрыць у Мінску Нацыянальны універсітэт з выкладаннем усіх прадметаў пабеларуску і надаць яму імя Якуба Коласа.
· Вярнуць у адукацыйныя стандарты для ВНУ абавязковае выкладанне курса "Беларуская мова: прафесійная лексіка".

| № | Прозвішча, імя | Адрас пражывання | Дата падпісання | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | |
| 2. | | | | |
| 3. | | | | |
| 4. | | | | |
| 5. | | | | |
| 6. | | | | |
| 7. | | | | |
| 8. | | | | |
| 9. | | | | |
| 10. | | | | |

# У Марыі Захарэвіч юбілей



**ЗАХАРЭВІЧ** Марыя Георгіеўна (н. 28.11.1936, в. Навасёлкі Мядзельскага р-на Менскай вобл.), бел. актрыса. Нар. арт. Беларусі (1977). Скончыла Бел. тэатр.-маст. ін-т (1957, курс К. Саннікава). Працуе ў Нац. т-ры імя Я. Купалы. Актрыса ярка акрэсленага лірыка-драм. плана. Створаныя ёю вобразы вызначаюцца логікай унутр. жыцця, душэўнай прыгажосцю, шчодрасцю, чысцінёй. Па-мастацку пераканаўча з творчым асэнсаваннем драматургічнага матэрылу выканала ролі ў нац. рэпертуары: Ганны («Людзі на балоце» паводле І. Мележа), Зосі Савіч («Сэрца на далоні» паводле І. Шамякіна), Наталлі Фадзееўны («І змоўклі птушкі» І. Шамякіна), Ганны («Плач перапёлкі» паводле І. Чыгрынава), Паліны Іванаўны («Апошні шанц» В. Быкава), Галі Жураўкі («Пакуль вы маладыя» І. Мележа), Ганулі Зношчыхі, Альжбеты («Тутэйшыя», «Паўлінка» Я. Купалы); а таксама ў творах сав., рас, замежнай драматургіі: Камісара («Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага), Браент («Праўду! Нічога, акрамя праўды!!!» Д. Аля), Танкабіке («У ноч зацьмення месяца» М. Карыма), Варвары, Гурмыжскай («Навальніца», «Лес» А. Астроўскага), Незнаёмай («Безыменная зорка» М.Себасцьяна), Алены («Дзеці сонца» М. Горкага), Марыі («Закон вечнасці» Н. Думбадзе). Знялася ў кінафільмах «Чужая бацькаўшчына», «Я, Францыск Скрына», «Людзі на балоце», «Нядзельная ноч», тэлефільмах «Руіны страляюць», «Тартак», «Ясь і Яніна», «Хам» і інш. Удзельнічае ў тэлепастаноўках і радыёспектаклях («Рыбакова хата» паводле Я. Коласа і «Хамуціус» А.Куляшова), Дзярж. прэмія Беларусі 1984.

# У памяць Васіля Быкава



У Старых Дарогах ідзе работа над памятным знакам Васілю Быкаву. Кіраўнік праекту Анатоль Белы. Адліты барэльеф памерам 75х45 см. Скульптар Уладзімір Мелехаў. Матэрыял - сілумін. Час выканання - лістапад 2006. Ідзе падбор гранітнага валуна. На здымку адзін з варыянтаў.

Дзе будзе ўстаноўлены памятны знак пакуль дакладна не вядома. Як варыянты разглядаюцца ўнутраны дворык філалагічнага факультэта ў БДУ, а таксама радзіма Васіля Быкава - Ушаччына, але ясна, што на адзін помнік вялікаму беларусу стане болей. ***Наш кар.***

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# З 86-мі ўгодкамі Слуцкага збройнага чыну

***Шаноўныя суайчыннікі!***

*27 лістапада 1920 года Слуцкі павет паўстаў супроць бальшавіцкай агрэсіі за ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі, за вольнае, годнае і нацыянальнае жыццё. Адзін павет узяўшыся за зброю абараніў гонар і годнасць усяго народа. Дзякуючы слуцакам кожны беларус сёння можа сказаць: мы біліся і мы дабіліся незалежнасці.*

*Сёння нас не павет, сёння нас цэлы народ, цэлая краіна, і сёння ніякая сіла нас ужо не зможа. Мы ёсць і будзем вольнай і вялікай нацыяй.*

*Віншуем усіх беларусаў на Бацькаўшчыне і за мяжой з чарговымі ўгодкамі Слуцкага збройнага чыну, які стаўся вышэйшай праявай імкненняў беларусаў да волі. Хай самаадданы чын герояў 20-га года мінулага стагоддзя служыць прыкладам кожнаму беларусу стагоддзя новага.*

***Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова".***

(Пра Слуцкі збройны чын чытайце на ст. 4.)

## *Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў снежні*

Абдулаева Святлана Іосіф.
Адамоніс Валянцін Канст.
Аксючыц Галіна Уладзім.
Алейнік Віталь
Андрасовіч Таццяна Вал.
Аношка Любоў Іосіфаўна
Антаноўская Людміла
Анцыповіч Мікалай
Арцюшэнка Вікторыя Ул.
Асіповіч Анані Канстанц.
Атрахімовіч Вячаслаў
Аўласка Ала
Афанасенка Кацярына Ул.
Багінская Аўгіння Ніна
Багнюк Любоў
Баеў Канстанцін Генадз.
Бандарчык Вікторыя Ігар.
Бартошык Наталля Пятр.
Бацян Валянціна
Башкоў Аляксандр Алякс.
Баярчук Алена
Берняковіч Іна
Бойка Валянцін Юр'евіч
Борбат Таццяна
Буданаў Зміцер Львовіч
Букачова Алена Уладзім.
Бурак Жанна Генадзеўна
Бурносаў Раман Генадз.
Бусловіч Святлана Анат.
Вабішчэвіч Аляксандр Мік.
Вайдашэвіч Жанна Пятр.
Верабей Янка Міхайлавіч
Водзіч Наталля
Волкава Ала
Гайдаровіч Анжэліка
Галіноўская Ніна Васіл.
Гарох Мікалай
Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч
Гацкі Уладзімір Венядзім.
Гінько Марыя Уладзімір.
Гнятуля Алег Аляксандр.
Гракун Валянціна Іосіф.
Грамыка Алена Віктар.
Грыневіч Ганна
Грыцаў Тарас
Грэйт Таццяна Міхайлаўна
Грэская Браніслава
Гук Уладзімір Пятровіч
Гурыновіч Генадзь Аркадз.
Дабрынец Аляксей Васіл.
Даманава Лідзія Дзмітр.
Дашкевіч Г. С.
Двілянская Бэла
Дземідовіч Ігар Славамір.
Дзем'яновіч Т. А.
Дзяменцева Ірына
Дзянісаў Уладзімір
Доўжык Андрэй Ігаравіч
Дрозд Юля
Дунецкі Тадэвуш Віктар.
Дучыц Людміла
Егіпцава Таццяна Уладзім.
Ермалёнак Марыя Георг.
ЖаўнярчукЛарыса Васіл.
Жучкова Наталля Яўген.
Жыткавец Кацярына
Зелянко Вольга Уладзімір.
Зімніцкая Ірына
Каваленка Святлана Пятр.
Кажан Анатоль Лазаравіч
Казачок Ларыса
Калыска Ірына
Каляда Ірына
Камароўскі Андрэй Уладз.
Кардаш Глеб
Каржэўскі Віктар Мікал.
Каркота Анэліка
Кастанаў Аляксандр
Касцянчык Мікалай Мік.
Кашчэеў Аляксандр
Клімковіч Ірына Яўген.
Клок Валянціна
Конан Генадзь
Краўчук Сяргей
Курневіч Лізавета Васіл.
Курчынскі Браніслаў Бран.
Курыльчык Мікалай Пятр.
Курыльчык
Кутырло Віталь Эдуард.
Лашук Міхаіл
Лемцюгова Валянціна Пят.
Логаш Уладзімір Міхайл.
Логвінава Вольга Іванаўна
Лозка Алесь Юр'евіч
Лукашэвіч Алена
Лук'янцаў Алег
Лявіцкі Ягор Вацлававіч
Ляшковіч Дзмітрый Іосіф.
Малахаў Зміцер
Мамай Часлава Часлав.
Марговіч Людміла Васіл.
Матчэня Алег
Мацко Сяргей Віктаравіч
Мікалаеў Андрусь Васіл.
Мілаш Валеры Уладзісл.
Міткавец Аляксандр
Мішкевіч Інэса Вітольд.
Мядзведзева Валянціна
Мядзюта Аляксандр
Ніканаровіч Генрых
Нікіціна Зінаіда
Новік Мікалай Аляксанд.
Новік Таццяна
Ожык Галіна
Палешчук Наталля
Панцялей Аляксандр Ул.
Папека Мікалай
Пархімовіч Сяргей Алякс.
Паўлавіцкі Станіслаў
Пека Зоя Пятроўна
Піменава Алена Анатол.
Пішчулёнак Марына
Плакса Ўладзімір
Понтус Сяргей Іванавіч
Поцька Віталь Станіслав.
Прыбыльская Наталля
Пяторўская Алена Алякс.
Раеўскі Аляксандр Алякс.
Рамашкевіч Алег Алякс.
Русецкая Ала
Сабалеўскі Антон Алякс.
Савіцкая Тэрэза Мірасл.
Свідуновіч Галіна
Семяненка Таццяна Леанід.
Сівы Сяргей
Скуратовіч Аляксей Анат.
Слінько Аляксандр Віктар.
Сныткіна Вольга Анатол.
Станішэўскі Віталь Валян.
Станкевіч Наталля Алякс.
Стралко Валер Васільевіч
Супаненка Павел Ігаравіч
Талерчык Аляксандр Сям.
Тарасаў Кастусь Іванавіч
Тарашкевіч Марына Мік.
Трафімчык Таццяна Уладз.
Трацяк Ганна
Трушко Уладзімір
Урублеўская Лізавета Мік.
Фунт Аляксандра
Халезіна Дзіяна
Хальпукова Вольга
Хітыкава Галіна Уладзім.
Хлус Алена
Худанёнак Ірына
Цівончык Мікалай Канст.
Цыва Андрэй Вітальевіч
Цыцыліна Таццяна Міх.
Шалахоўскі Аляксей Леан.
Шалкоўская Людміла Вік.
Шаршун Алена Сяргееўна
Шчэд Аляксандр Аляксан.
Шушкевіч Станіслаў Ст.
Шчэрбік Зміцер Васільевіч
Шчэрбік Зміцер Васільевіч
Шыманец Віржыня
Шымук Марыя Дзмітр.
Шыцёнак Наталля
Шышко Іван Валянцінавіч
Шэпетаў Мікалай Васіл.
Юданаў Віктар Канстанц.
Юшкевіч Міхаіл Валянцін.
Яўменаў Альберт Піліп.

## *Анатолю Вярцінскаму*

**Паважаны Анатоль Ільіч!**

**Вучні і настаўнікі школы імя Ф. Скарыны г. Вільні віншуюць Вас з юбілеем і зычаць Вам моцнага здароўя, плёну, дабрабыту, усмешак, пяшчоты, дабра, каб душа Ваша не старэла і творчасць жыла.**

**З павагай да Вас віленчукі!**

*Праект*

### План дзейнасці

**Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" на 2007 год**

| № | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|---|
| 1. | **Арганізацыя працы камісіяў ТБМ.** (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц) | На працягу года | Старшыні камісіяў ТБМ |
| 2. | **Асветніцка-педагагічная праца:**<br>- з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у д/с і 1-ыя класы ў 2007-2008 навучальным годзе;<br>- з бацькамі і іх дзецьмі, якія навучаюцца ў рускамоўных і беларускамоўных адукацыйных установах;<br>- з арганізацыямі і ўстановамі па прапагандзе беларускай мовы і літаратуры. | На працягу года | Бацькоўскі камітэт, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 3. | **Праца рэгіянальных арганізацый ТБМ** па захаванні і адкрыцці беларускамоўных адукацыйных устаноў: збор подпісаў, лісты ў дзяржаўныя ўстановы, пікеты і інш. | На працягу года | Рэгіянальныя структуры ТБМ, Сакратарыят (каардынацыя) |
| 4. | **Стварэнне інтэрнэт-рэсурсаў** дыстанцыйнага Беларускага адукацыйнага партала навучання на беларускай мове. | На працягу года | Часовая інфармацыйная камісія, С. Кручкоў |
| 5. | **Супрацоўніцтва** з уладнымі структурамі па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Беларусі (№ 48 ад 27.08.2001 г.) "*Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі*", Закона "*Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь*", па зменах у Законе аб мовах. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 6. | **Супрацоўніцтва** з Дзяржстандартам па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы ў інструкцыях і на ўпакоўках тавараў, якія маюць абарачэнне на тэрыторыі Беларусі, Міністэрствам сувязі па пытаннях выпуску беларускамоўнай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 7. | **Супрацоўніцтва** з банкаўскімі структурамі па пытаннях афармлення на беларускай мове бланкаў, рэквізітаў і іншай банкаўскай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 8. | **Праца з прадпрыемствамі** па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпусканай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 9. | **Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў і чытачоў** на "Наша слова" і іншыя беларускамоўныя газеты і часопісы | На працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| 10. | **Правядзенне семінараў** па тэме "Я магу жыць лепей". | На працягу года | Сакратарыят, Л. Дзіцэвіч |
| 11. | **Правядзенне "круглага стала"** па тэме "Роля беларускай мовы ў развіцці інтэлекту". | Кастрычнік | М. Савіцкі, Я. Стэпановіч, Л. Майсеня |
| 12. | **Святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы.** Правядзенне пікетаў, сустрэчы з чытачамі (разам з пісьменнікамі і журналістамі). | 21 лютага | Сакратарыят, Менская гарадская арганізацыя ТБМ, абласныя і раённыя структуры ТБМ |
| 13. | **Адзначыць наступныя даты**:<br>- 80 гадоў Інбелкульту;<br>- 75 гадоў газеце "ЛіМ";<br>- 100 гадоў першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага;<br>- 35 гадоў выдавецтву "Мастацкая літаратура";<br>- 50 гадоў часопісу "Вясёлка";<br>- 50 гадоў Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН;<br>- 490 гадоў (1577 г.) выданню Ф. Скарынам першай кнігі Біблії ў Празе на беларускай мове. | <br>30 студзеня<br>26 лютага<br>20 сакавіка<br><br>31 сакавіка<br><br>29 красавіка<br>28 чэрвеня<br><br>6 жніўня | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" |
| 14. | **Ушанаваць памяць беларускіх дзеячаў:**<br>- Янкі Купалы, 125 гадоў;<br>- Якуба Коласа, 125 гадоў;<br>- Браніслава Тарашкевіча, 115 гадоў;<br>- Міколы Садковіча, 100 гадоў;<br>- Алеся Гурло, 115 гадоў;<br>- Фабіяна Шантара, 120 гадоў;<br>- Напалеона Орды, 200 гадоў;<br>- Алеся Звонака, 100 гадоў;<br>- Міхася Стральцова, 70 гадоў;<br>- Бялыніцкага-Бірулі, 135 гадоў;<br>- Алеся Гаруна, 120 гадоў;<br>- Мітрафана Доўнар-Запольскага, 140 г.;<br>- Янкі Брыля, 90 гадоў (выданне кішэннага каляндарыка);<br>- Пімена Панчанкі, 90 гадоў;<br>- Івана Грыгаровіча, 215 гадоў;<br>- Максіма Танка, 95 гадоў;<br>- І. Калесніка, 75 гадоў;<br>- Рамана Сабалеўскага, 100 гадоў;<br>- Яўгена Карпіка, 70 гадоў;<br>- Цішкі Гартнага, 120 гадоў. | 7 ліпеня (на пр. года)<br>30 лістап. (на пр. г.)<br>20 студзеня<br>21 студзеня<br>31 студзеня<br>4 лютага<br>11 лютага<br>14 лютага<br>14 лютага<br>28 лютага<br>11 сакавіка<br>14 чэрвеня<br>4 жніўня<br><br>23 жніўня<br>26 жніўня<br>17 верасня<br>9 кастрычніка<br>15 кастрычніка<br>31 кастрычніка<br>4 лістапада | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" |
| 15. | **Адзначыць юбілейныя даты сяброў ТБМ:**<br>- Уладзіміра Крукоўскага, 70 гадоў;<br>- Вітаўта Кіпеля, 80 гадоў;<br>- Адама Мальдзіса, 75 гадоў;<br>- Уладзіміра Содаля, 70 гадоў;<br>- Аляксея Каўкі, 70 гадоў;<br>- Карла Гутшміта, 70 гадоў. | 6 сакавіка<br>30 траўня<br>7 жніўня<br>13 верасня<br>20 верасня<br>20 верасня | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" |

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





# Зберагчы народную памяць






Сёлетняе лета пісьменніца Вольга Іпатава прысвяціла падарожжам па памятных мясцінах роднай Беларусі. Вынікам гэтага стаў шэраг артыкулаў пра слынных сыноў і дачок нашай краіны, што друкаваліся ў незалежных газетах, у тым ліку і ў "Нашым слове."

- Я даўно марыла пабываць на месцах , дзе захаваліся памятныя знакі ці магілы ўдзельнікаў трох паўстанняў на Беларусі, а таксама наведаць магілу А. Пашкевіч (Цёткі), М. Васілька, чыё стагоддзе мы нядаўна адзначылі, іншых дарагіх мне людзей — як слаўных нашых дзеячоў мінулага, так і сваіх сучаснікаў, напрыклад, А. Карпюка, А. Пысіна. Гэтыя людзі заўсёды служылі справе Свабоды і заставаліся вернымі ёй да апошняга дыхання. Яшчэ мне хацелася наведаць тых краязнаўцаў, якія нястомна працуюць дзеля захавання народнай памяці – такіх, як Аляксандр Палубінскі ў Свіслачы ці Мікалай Быхаўцаў у Ваўкавыску, пабачыць тое, што пакуль недаступна для шырокай грамадскасці ў сілу тых ці іншых прычынаў," — расказвае пісьменніца. Усё гэта яна змагла ажыццявіць. Апроч гэтага, сустрэцца з мностварм сваіх чытачоў у Берастава́цкім і Нясвіжскім раёнах, а таксама наведаць бібліятэку імя Яўгеніі Янішчыц у Пінску і паприсутнічаць там на свяце ў гонар дня нараджэння гэтай слыннай пісьменніцы.

Цяпер яна піша пра свае ўражанні ад паездак і шчырых, адданых Беларусі людзей, з якімі яна сустракалася, а таксама пра неабходнасць захавання народнай памяці.

Пісьменніца спадзяецца, што яе артыкулы будуць спрыяць таму, каб нашы суайчыннікі смялей здзяйснялі вандроўкі да нашых памятных мясцін і ўшаноўвалі не заваеўнікаў і гвалтаўнікоў беларускага народу, а тых, хто аддаваў сваё жыцце за свабоду, і хто жывіў народны дух.

*Ю. Трубец.*




**На фота**: 1. Выступленне Вольгі Іпатавай у Ваўкавыск
2. У бібліятэцы імя Яўгеніі Янішчыц (Пінск)
3.Ля партрэтаў слаўтых папярэднікаў. У в. Алекшыцы Бераставіцкага раёна.

# У падарунак падпіска на газету "Наша слова"

Мая ўнучка Валерыя Гіль жыве з бацькамі ў г. Віцебску.

Сёлета яна пайшла ў першы клас Гімназіі № 1. Да гэтага часу ў Віцебску гэта была адзіная школа з беларускай мовай навучання. Сёлета перавялі гімназію на "русский язык из-за неперспективности и из-за того, что нет хороших учителей, которые хорошо владеют беларуским языком (!?)". Так мне паведамілі з Віцебску.

Бацькі Валеры – беларусы, мовай валодаюць добра, таму будуць роднай мове навучаць сваю дачку ў хатніх умовах (бацька Аляксандр – інжынер – электронік, маці Людміла – педагог, закончыла інстытут замежных моў (нямецкая мова).

Я, як дзед Валерыі, не застаюся ў баку ад ўсяго гэтага і ўжо у Віцебск сваёй унучцы адправіў кніжкі на роднай мове. Апроч гэтага мая ўнучка ходзіць на заняткі танцавальнага гуртка. Пакуль што я радуюся за ўнучку. У якасці падарунка я ёй на 2007 г. выпісваю газету "Наша слова".

Сябры! Калі вы за адраджэнне нашай мовы – выпісвайце і чытайце газету "Наша слова".

"Наша слова" – добры падарунак для сваіх родных, блізкіх і знаёмых!

І яшчэ пра ўнучку сваю.

Улетку наступнага года ў "Засцянковай хатцы" (з. Вашунова) будзе праводзіцца імпрэза ў сувязі з 15-годдзем ТБМ Віленшчыны і 65-годдзем Старшыні ТБМ.

Падчас гэтага мерапрыемства буду праводзіць іспыт на веданне беларускай мовы. Там ужо зроблена імправізаваная школа (клас), дзе ёсць усё неабходнае (парта, класная дошка, лічальнікі, глобус і г.д.). Спадзяюся, што мая ўнучка вытрымае гэта іспыт. Устанавіў і прыз – кампутар.

Поспехаў у авалоданні роднай мовай!

*Юры Гіль, г. Вільня.*

# На газету "Наша слова" можна падпісацца ў менскіх крамах "Белсаюздруку"

Шаноўныя чытачы "Нашага слова" і ў першую чаргу жыхары Менска. Сёлета вы можаце акрамя паштовых аддзяленняў і аддзелаў падпіскі "Белпошты" падпісацца на нашую газету ў новых пунктах падпіскі. Гэтыя пункты - крамы "Белсаюздруку", такія як "Глобус" каля Галоўпаштамту. Газета "Наша слова" ўключана ў каталог падпіскі "Белсаюздруку" і кошт падпіскі тут значна меншы, чым у "Белпошты". Розніца коштаў узнікае з-за таго, што газету з крамаў "Белсаюздруку" трэба забіраць самому, а пошта носіць у паштовую скрынку.

Мы спадзяёмся, што сярод нашых чытачоў ёсць людзі, якія стала карыстаюцца паслугамі крамаў "Белсаюздруку", то чаму б не скарыстацца з магчымасці больш танна выпісаць і нашую газету. А раптам акажацца зручна і выгадна. Тым больш, што з'яўленне газеты ў рознічным продажы пакуль усё яшчэ пад пытаннем.

*Рэдакцыя.*

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства! Ідзе падпіска на першы квартал і першае паўгоддзе 2007 года. У каталогу падпіскі "Наша слова" знаходзіцца на стар. 89.

Будзьце з намі, і вы будзеце ў цэнтры падзей, якія адбываюцца ва ўсім беларускамоўным спектры Беларусі і замежжа.

РП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2007 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі 9840 руб. / пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2007 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



Анатоль Грыцкевіч

# Слуцкі збройны чын і лёс яго ўдзельнікаў

***Ужо стала традыцыяй у Беларусі, а не толькі ў асяроддзі беларускай дыяспары, адзначаць Дзень Герояў – Дзень Слуцкага збройнага чыну 1920 году, калі адбыўся апошні акт арганізаванага супраціву замежнай інтэрвенцыі з боку савецкай Расіі ў абарону незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.***

***Нягледзячы на доўгі час замоўчвання Слуцкага паўстання ў БССР і ў цяперашніх афіцыйных выданнях па гісторыі Беларусі, усё больш і больш людзей, перш за ўсё моладзь цікавіцца гераічным мінулым нашага народа, змаганнем яго сыноў за незалежнасць Бацькаўшчыны.***

Слуцкае паўстанне адбылося ў канцы савецка-польскай вайны 1919-1920 гг. у час другога наступу польскіх войскаў на Беларусі, пасля паразы Чырвонай арміі пад Варшавай. 11 кастрычніка 1920 г. польскія войскі зноў занялі Слуцк (якім валодалі раней, з 10 жніўня 1919 г. да 15 ліпеня 1920 г.) і прасунуліся на 25 кіламетраў на ўсход ад горада, дзе спыніліся праз 6 дзён пасля падпісання перамір'я 12 кастрычніка.

Разам з перамір'ем быў падпісаны (дарэчы без удзелу прадстаўнікоў савецкай Беларусі) і дагавор аб папярэдніх умовах будучага мірнага дагавору. Устанаўлівалася дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай Беларусі (ССРБ), якая знаходзілася за 35-40 кіламетраў на захад ад Слуцка.

Польскія войскі павінны былі адступіць за мяжу пасля ратыфікацыі дагавора аб перамір'і і прэлімінарным міры і абмену ратыфікацыйнымі граматамі паміж Польшчай і Расіяй. Беларуская ССР у гэтым не ўдзельнічала. А яе прадстаўніцва кіраўніцтва савецкай дэлегацыі не дапусціла да перамоваў з польскай дэлегацыяй.

## 2. Напярэдадні.

Слуцк і Слуцкі павет былі асяродкамі дзейнасці беларускага нацыянальнага руху. Частка беларускай інтэлігенцыі займала актыўныя патрыятычныя пазіцыі. Асноўным чыннікам Слуцкага збройнага чыну стала беларускае сялянства, якое выступала за незалежнасць сваёй дзяржавы – Беларускай Народнай Рэспублікі.

Польскія войскі заставаліся на занятай тэрыторыі ССРБ да заключэння асобнага пагаднення аб іх адводзе за лінію мяжы. Пасля іх адводу павінна была утварыцца нейтральная зона ў 30 кіламетраў – па 15 кіламетраў ад лініі новай дзяржаўнай мяжы з кожнага боку, куды ні Чырвоная армія, ні польскія войскі заходзіць не мелі права. Гэтая нейтральная зона была ліквідаваная толькі пасля падпісання канчатковага мірнага дагавору, умовы якога яшчэ больш за 5 месяцаў абмяркоўваліся на перамовах у Рызе. Мірны дагавор паміж савецкай Расіяй і Польшчай, без удзелу ССРБ, быў падпісаны ў Рызе 18 сакавіка 1921 г.

Узначальваў выступ беларускую са зброяй у руках за незалежнасць Беларусі Беларускі нацыянальны камітэт у Слуцку. У складзе яго існавалі групы розных поглядаў, што выклікала рознагалоссі і адмоўна адбілася на далейшым ходзе падзей.

Польскія вайсковыя ўлады ў Слуцку толькі ў пачатку лістапада 1920 г. перадалі цывільную ўладу ў горадзе і Слуцкім павеце Беларускаму нацыянальнаму камітэту пасля таго, як яго склад быў зменены. Ад кіраўніцтва камітэтам былі адхілены беларускія сацыялісты-рэвалюцыянеры (эсэры), рашучыя прыхільнікі незалежнасці Беларусі і праціўнікі Польшчы.

Тым не менш беларускія эсэры, якія прадстаўлялі інтарэсы сялянства, вырашылі склікаць Беларускі з'езд Случчыны, каб легальна ўстанавіць народную ўладу і вырашаць далейшую палітыку. У гэты час у валасцях і вёсках Слуцкага павету дэмакратычным шляхам, без ціску зверху былі выбраныя адпаведныя беларускія нацыянальныя камітэты, якія замянілі прызначаных польскімі ўладамі войтаў у валасцях і солтысаў у вёсках.

Ад гэтых тэрытарыяльных камітэтаў і ад беларускіх культурна-асветніцкіх гурткоў былі выбраны дэлегаты на з'езд Случчыны.

## 3. Беларускі з'езд і Рада Случчыны.

З'езд Случчыны праходзіў 14-15 лістапада 1920 года ў Слуцку ў вялікай зале дома Эдварда Вайніловіча, фундатара Чырвонага Касцёла ў Менску. Сабралася 107 дэлегатаў ад горада і валасцей з правам вырашальнага голасу і 10 дэлегатаў – з правам дарадчага.

З'езд пачаўся 14 лістапада а 12 гадзіне дня і працягваўся да 10 гадзін вечара 15 лістапада, кіравалі ім беларускія эсэры. 14 лістапада дэлегаты прынялі рэзалюцыю, у якой віталі Найвышэйшую раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заявілі катэгарычны пратэст супраць савецкай улады на Беларусі як "чужацкай". Асноўным зместам рэзалюцыі было рашэнне падняць паўстанне "супраць акупацыі" за "незалежнасць Беларусі".

Беларускі з'езд Случчыны выбраў Раду Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі ў складзе 17 чалавек на чале з Уладзімірам Пракулевічам, як сведчыць Юры Лістапад, адзін з дзеючоў Слуцкага збройнага чыну, і пратакол з'езду. Таксама былі абраны 5 кандыдатаў у сябры Рады і Прэзідыюм Рады.

З'езд перадаў Радзе цывільную ўладу і даручыў арганізацыю нацыянальнага войска. Рада Случчыны лічылася часовым урадавым органам аж да ўтварэння выбарнага органа для ўсёй Беларусі.

Першачарговай справай Рады стала фармаванне войска, дзеля чаго была створана вайсковая тройка з сяброў Рады – Павел Жаўрыд, капітан Анастас Анцыповіч і паручнік Янка Мацэй. Яны пачалі збіраць узброеныя аддзелы з беларускай міліцыі і добраахвотнікаў, у асноўным маладых сялянскіх хлопцаў. Іншыя сябры Рады займаліся арганізацыяй розных цывільных устаноў. Такім чынам, за некалькі дзён утварылася не толькі аснова беларускага нацыянальнага войска, але і органы нацыянальнай дзяржаўнай улады, хай сабе толькі ў межах аднаго павету.

21 лістапада Слуцкая рада выдала дэкларацыю, якая заклікала сялянства на барацьбу за "незалежную Беларусь у яе этнаграфічных граніцах" і за "інтарэсы сялянства".

*(Працяг у наст. нум.)*

# І юбілей, і свята беларускасці

*"Хай квітнее ва ўсю моц прыроды*
*родны край!*
*Хай заўжды радзіцца добры,*
*слаўны ўраджай!*
*Хай гучыць у сэрцах песня,*
*хай працуе кожны чэсна,*
*Хай заўжды квітнее родны,*
*беларускі Край!"*

Такімі пранікнёна-лірычнымі радкамі распачаўся ўрачысты вечар у Віцебскай філармоніі, прысвечаны паўстагоддзю Дзяржаўнай прафесіянальна-тэхнічнай вучэльні № 19 бытавога абслугоўвання насельніцтва. І амаль па працягу трох гадзін узнёсла і прыгожа гучала роднае слова. Гэта надало ўрачыстасці асаблівую цеплыню, асалодай якой была зачаравана большасць яе ўдзельнікаў.

А плён паўвекавы ў вучэльні надзвычай багаты. Падрыхтавана амаль 15 тысяч швачак, краўцоў, вышывальшчыц, дэманстрантаў аддзення.

З 1964 года вучэльня з'яўлялася пастаянным удзельнікам ВДНГ СССР, атрымала 256 не медалёў рознай каштоўнасці і намінацыі.

Зробленае залатымі рукамі маладых умельцаў адзенне дэманстравалася неаднаразова не толькі на постсавецкіх прасцягах, у краінах былога сацлагера, але і ў далёкім замежжы – ЗША, Канадзе, Японіі, Індыі, Германіі, Уетнаме і г. д.

Гонарам вучэльні з'яўляецца створаны 15 гадоў назад **Тэатр мовы "Стыль"**. Геаграфія яго выступленняў таксама шырокая. За плённую работу па прапагандзе нацыянальнай культуры і высокае выканаўчае майстэрства тэатр ужо пяць гадоў носіць званне "Народны, самадзейны калектыў". Ён, дарэчы, адзіны сярод навучальных устаноў вобласці ўганараваны такім тытулам.

*"Хай слава ідзе аб нашым народзе,*
*хай ведаюць ўсе беларускія цуды*
*і попыт высокі на іх заўжды будзе."*

Кожнага прамоўцу, якіх было даволі шмат пранікнёнымі радкамі сустракала вядоўца вечарыны Ала Кузняцова разам з народным тэатрам "Стыль", юныя ўдзельнікі якога дэманстравалі не толькі беларускую нацыянальную прыгажосць, але і строі 35 краін свету.

Дырэктар вучэльні Янка Рыцько, дарэчы, яго родныя карані са Слуцка-Капыльскага краю, вельмі багатага літаратурнымі постацямі, кіраўнік тэатра мініяцюр Алег Кіраўніцын і народнага тэатра мовы "Стыль" Таццяна Іванова разам з інжынерна-педагагічным калектывам і навучэнцамі пастараліся шмат, каб паўвекавы юбілей навучальнай установы стаў адначасова і святам беларускасці !

Сапраўды, цудоўны прыклад павагі да роднага слова, варты пераймання!

***Янка Тышко, г. Віцебск.***

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Шкірманкоў Ф. - 10000 р., г. Слаўгарад.
2. Хадоскін-Ігнацікаў П. - 3000 р., г. Гомель.
3. Чэрыкаўская суполка ТБМ - 31000 р.
4. Скрэчка Анатоль - 10000 р., г. Мазыр.
5. Астаповіч і "Юніянлайн" - 20000 р., г. Менск.
6. Чэчат Алесь - 20000 р., г. Менск.
7. Раманюк І. - 40000 р., г. Менск.
8. Ляскоўскі Уладзіслаў - 20000 р., г.п. Шаркаўшчына.
9. Чайкоўскі Павел - 10000 р., г. Менск.
10. Цвірка А. В. - 10000 р., г. Менск.
11. Вештарт Г. Ф. - 20000 р., г. Менск.
12. Анісава Клаўдзія - 10000 р., г.п. Свіслач, Пухавіцкі р-н.

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015212330014 у Мінскай гардырэкцыі ААТ "Беінвестбанка" код 764 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**Касір**
Пеня
Разам
**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**Квітанцыя**
**Касір** **М.П.**
Пеня
Разам
**Плацельшчык**

*Рэдактар Станіслаў Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 27. 11. 2006 г. у 10.00. Замова № 2399.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1640 руб., 3 мес.- 4920 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013